Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 5 (18). Вільня, Серада, 20-га студзеня 1926 г. Год II.

## Трэбуйце свайго!

Ніжэй мы падаем сьпіс маёнткаў у межах Заходняе Беларусі, якія, згодна з законам „аб парцэляцыі і асадніцтве“, маюць быць у 1926 годзе аддадзены на парцэляцыю *прымусова*.

Ня будзем паўтараць таго, што і так ужо ўсім ведама: што аўтары закону выдалі яго з тэй мэтай, каб на беларускай зямлі насадзіць польскіх асаднікаў і гэтым умацаваць польскае тут панаваньне. Ведама такжа, што для тутэйшага насяленьня польская ўлада празначае хіба толькі нейкія крошкі „з панскага стала“, а ўжо аб тым, каб зямлю маглі дастаць нашы малазямельныя ці беззямельныя хлебаробы, і гаварыць ня прыходзіцца: парцэляцыя будзе адбывацца на падставе *выкупу*—і то такога, каб абшарнікі не маглі пажаліцца на сваю „крыўду“....

Дый мала таго, што польскія законадаўчыя ўстановы хочуць гэтым законам пазбавіць беларускую люднасьць магчымасьці здабыць патрэбны варштат дзеля працы на роднай зямлі: мы бачым імкненьне некаторых сфэр туманіць гэтым законам вочы ня толькі польскім сялянам, але і работнікам, пазбаўленым працы, супакоіваючы іх манлівымі абразамі „вялізарных вольных прастораў зямлі на Крэсах“, і вось у Лодзі ўтварыўся нават адумысны камітэт, каб безработных з мест, ня маючых ніякага паняцьця аб сельскай гаспадарцы, садзіць у нас на празначаную дзеля парцэляцыі зямлю....

Што-ж павінны рабіць мы, беларусы, адвечныя гаспадары сваёй зямлі, якую ў нас спад носа маняцца браць чужыя?

Усе пратэсты нашых выбранцаў у Сойме і Сэнаце проці крыўдных для нашага народу пастановаў зямельнага закону асталіся бяз ніякага водгуку. Дык *пара падняць голас нашаму сялянству—масе.*

Кожын беларускі селянін мае поўнае законнае права зварачацца да адпаведнае ўлады аб надзяленьне яго зямлей з парцэляваных у яго пад бокам дворных абшараў. І кожын беларускі селянін з гэтага свайго права *павінен скарыстаць.*

Беззямельнікі і малазямельнікі! Усе, каму цесна на ягоных шнурох, усе, хто гарэ чужы загон, падавайце земскім камісарам свае заявы аб надзяленьні вас зямлей! Дамагайцеся таго, на што маеце права!

Скажаце: „на што-ж падаваць, калі няма надзеі дастаць? Падавалі-ж дэкларацыі на беларускія школы, і на 15 тысяч дэкларацыяў не адчынілі нам ніводнае школы....“

Няхай так. Няхай не дадуць. Але *народ павінен выявіць сваю волю,* павінен паказаць, які вялізарны зямельны голад пануе ў Заходняй Беларусі, як народ імкнецца да зямлі, як яна патрэбна яму. Няхай не дадуць сягоньня, не дадуць заўтра, — але прыдзе час, калі з голасам нашага сялянства прыдзецца паважна лічыцца, і выяўленая ім сягоньня воля *будзе споўнена.*

Дык не прасьпіце, сяляне, гэтага мамэнту: вашае маўчаньне будзе інакш растлумачана, як згода ваша на раздачу вашага нацыянальнага багацьця чужым.



## Сьпіс маенткаў, падлягаючых прымусовай парцэляцыі у 1926 годзе.

Згодна з пастановай Рады Міністраў, абвешчанай афіцыяльна 9 студзеня с. г., прымусовай парцэляцыі ў 1926 годзе падлягаюць:

1) на прасторы, падлягаючым **акруговаму зямельнаму ўраду ў Беластоку**, — 4,300 гэктараў;

2) на прасторы, падлягаючым **акруговаму зямельнаму ўраду ў Вільні**:

**У Віленскім павеце:** 200 гэктараў з двара Ворняны Зыгм. Хаміньскага і 150 гэктараў з двара Орняны Яна Тышкевіча;

**У Ашмянскім павеце:** 200 гэкт. з двара Боніфацово Ст. Базарэўскага і 50 гэкт. з дв. Спрагуны Керсноўскай;

**У Сьвянцянскім павеце:** 200 г. з дв. Пшыязьнь Дарахоўскае, 400 г. з. дв. Лынтупы І. Бішэўскага, 100 г. з дв. Падляны Караліны, Уладыслава і Зофіі Ежманоўскіх, 200 г. з дв. Камароўшчына М. Старжэньскай;

**У Дзісьненскім павеце:** 400 г. з дв. Понізова Фр. Кожэнеўскага, 150 г. з дв. Окунёва Гр. Граура, 40 г. з дв. Голово І Рамановіча, 200 г. з дв. Чарневічы Вікт. Зыбэрк-Плятэра, 50 г. з дв. Залесьсе Ст. Моля;

**У Пастаўскім павеце:** 200 г. з дв. Паставы Пшэзьдзецкага;

**У Вялейскім павеце:** 200 г. з дв. Абадоўцы М. Багдановіча, 240 г. з дв. Мільч Л. Казлоўскай, 145 г. з дв. Каролін Канст. і Магд. Незабытоўскіх, 150 г. з дв. Тэклінополь Тэафілі Скірмунтовай, 250 г. з дв. Любань Людв. Кракова, 100 г. з дв. Спагла Ванды Стэмпоўскай і Эдв. Красіцкага;

**У Маладэчанскім павеце:** 200 г. з дв. Залесьсе Высоцкага і Залускага, 50 г. з д. Маліноўшчына Б. Сьвентарэцкага, 200 г. з. дв. Маладэчна насьледнікаў Т. Заёнчкоўскага, 45 г. з дв. Лешна ўрочышча Хароўшчына С. Саковіча;

**У Браслаўскім павеце:** 100 г. з дв. Паўлінова Ал. Божерянова, 90 г. з дв. Леонполь Стан. Лопацінськага, 200 г. з дв. Альбінова Віт. Броэль-Плятэра;

3) на прасторы, падлягаючым **акруговаму зямельнаму ўраду ў Горадні**:

**У Баранавіцкім павеце:** 200 г. з дв. Цешэвля з фальв. Язьвіны, Пустка Ігрэва, Пусткі, Дубоўка, Доўгі — Саб. Мацкевічовай, Ядв. Шварановічовай і Юліі Квецінскай, 100 г. з дв. Чэрніхаў Дольны і Тышкаўцы Г. Гартінга, 100 г. з дв. Грушчоўка і фальв. Нач-Горка Г. Грабоўскага;

**У Горадзенскім пав.:** 70 г. з дв. Баяры з фальв. Сьвіслач Марты Красінскай, 100 г. з дв. Станіславаў з фальв. Друцк Яна Друцкага-Любэцкага;

**У Лідзкім павеце:** 100 г. з дв. Шчучын з фальв. Давядоўшчына Марыі Іоанны Друцкай-Любэцкай, 450 г. з дв. Спуша з фальв. Дзембраў і Лесішча Аўст. Сапегі, 300 г. з дв. Жалудак, Хаціеўшчына і Варатышча Л. Чэтвертыньскага;

**У Нясьвіжскім павеце:** 200 г. з дв. Залуша з фальв. Саска-Ліпка Ф. Гартінговай, 100 г. з дв. Грыцэвічы з фальв. Канстантынаў Ядвігі Гуттэн-Чапскай, 300 г. з дв. Мір з фальв. Пясочна М. Сьвятаполк-Мірскага, 300 г. з дв. Несьвіж з фальв. Суглічы Альбэрта Радзівілла;

**У Слонімскім павеце:** 100 г. з дв. Ісаевічы Яз. Броньскага;

**У Ваўкавыскім пав.:** 500 г. з дв. Рось, Касьцешкі, Стшэмбово Ад. Браніцкага, 200 з дв. Зэльжын Алены і Марыі Івановых, 200 г. з дв. Струбніца з ф. Дылеўшчына Каз. Бісьпінга, 200 г. з дв. Рэпля, Духавяны Б. Залютыньскага, 280 г. з. дв. Краскі з фальв. Ашчэльнікі П. Сегэня, 120 г. з дв. Рагозьніца з ф. Бароўшчына Оскара Мэйштовіча;

**У Валожынскім пав.:** 230 г. з дв. Яхімоўшчына з фальв. Палачаны і Кучукі В. Сьвентарэцкага;

4) на прасторы, падлягаючым **акруговаму зямельнаму ўраду ў Бярэсьці** — агулам 2,900 г., у тым ліку 600 г. з дв. Белін К. Тэлочкі.

## Варункі амэрыканскае пазыкі.

У польскую прэсу праскочыла вестка аб тым, якія варункі запрапанавалі польскаму ўраду прыехаўшыя з Амэрыкі тытунёвікі-банкіры, калі Польшча хоча дастаць ад іх пазыку—пад залог тытуновай манаполіі.

Гэтыя прадстаўнікі „Бэнкерс-Трэсту“, пазнаёміўшыяся з палажэньнем Польшчы і варункамі тытуновай манаполіі, запрапанавалі перад усім „пазычыць“ ўраду 100 мільёнаў даляраў, але з тым, што ў запраўднасьці дадуць толькі... 75 мільёнаў, якія і маюць лічыцца за 100... Апрача гэтага, урад яшчэ мае плаціць за пазыку (пэўна-ж за „ўсе 100 мільёнаў“) па 8½ працэнтаў у год.

На забясьпечаньне сплаты пазыкі амэрыканскія ліхвяры бралі-б сабе каля паловы (45%) усяго чыстага зыску з тытуновай казённай манаполіі.

Апрача таго, гэтыя-ж амэрыканскія тытуновыя каралі ўзялі-б у свае рукі ўвесь выраб і ўвесь гандаль тытуном у Польшчы, дый цягнулі-б з гэтага ўсе прамысловыя і торговыя даходы, як прадпрыемцы дый яшчэ мананалісты (гэта значыць—ня маючыя канкурэнтаў).

Але і гэтым яшчэ не абмяжоўваліся-б зыскі замежных капіталістаў у Польшчы, бо яны цягнулі-б яшчэ вялікія зыскі для сваіх амэрыканскіх тытуновых плянтацыяў, як выключныя (манапольныя) пастаўшчыкі сыр'я на свае-ж фабрыкі ў Польшчы...

З гэтага патройнага зыску амэрыканскіх ліхвяроў (—як банкіраў, як прамыслоўцаў і як гандляроў!) і маюць складацца ўсе тыя вялізарныя даходы і карысьці „Бэнкерс-Трэсту“, якія маюць аплачываць многапакутныя курцы тытуну ў Польшчы... На гэтым прыкладзе чытач найляпей зразумее мімаходам, што значыць слова „Трэст“...

І вось гэтыя варункі амаль што ўжо ня прытяты польскім урадам...

Цікава, што дырэктар Млынарскі, які прывёз гэтых „дабрадзеяў“ заморскага ліхвярства ў Польшчу, падпісаў з імі яшчэ ў Амэрыцы так-званую „опцыю“, ці згары дадзеную ўмоўную згоду ўраду на гэткі гешэфт...

Наскольки некарысна падпісаная Млынарскім опцыйная ўмова, відаць з таго, што польскі ўрад перад усім абязаўся ў працягу трох месяцаў не весьці больш ні з кім, апрача „Бэнкерс-Трэсту“, ніякіх перагавораў аб тэй жа пазыцы пад манаполію. Інакш кажучы, абазаўся ў працягу найбольш цяжкіх і рашучых для Польшчы бліжэйшых трох месяцаў—не дапускаць побач з прыехаўшымі ліхвярамі ніякіх для іх канкурэнтаў... Гэта-ж і значыць, што гэтыя паны могуць сьмела ставіць якія хочуць варункі, бо польскія фінансы ня могуць чакаць гэтых 3 месяцаў.

Вось, як ратуе край „брацкі“ саюз краёвай буржуазіі з замежнай...

## Да афэры вэнгерскіх фальшываманэтчыкаў.

Францускі ўрад, вельмі нездаволены працай вэнгерскай паліцыі ў справе выкрыцьця ўчасьнікаў фальшаваньня францускіх банкнотаў, прыслаў у Вэнгрыю сваіх агэнтаў, якія зусім інакш павярнулі ўсю працу.

Зараз-жа пачало выясьняцца, што галоўныя ніці ўсей афэры былі ў руках асобаў, найбліжэй стоючых да самага Вярхоўнага Правіцеля краю п. Хорты. Але гэта так напалохала ўсю вышэйшую арыстакратыю дый бюракратыю Вэнгрыі, што ўрад энэргічна запратэставаў... І вось, у выніку „ўмовы“ з францускім урадам—справа будзе ў значнай меры абмежавана... Вэнгерскі ўрад перад усім трэбуе—захаваць „нятыкальнымі“ і „нявіннымі“ — пана Хорты і яго радню, бо гэта — „хістае павагу вэнгерскай дзяржавы“..

Маральны развал вэнгерскай буржуазна-абшарніцкай арыстакратыі і створанай ею бюракратыі—нязьбіты доказ раскладу ўсяго буржуазнага сьвету Эўропы.. Арыстакратыя, адміністрацыя (галоўны шэф паліцыі!), армія (друкаваліся фальшывыя грошы—у галоўнай друкарні ваеннага міністэрства)... Не хапала-б, здаецца, толькі прадстаўніка духавенства, каб увесь буржуазны Алімп быў прадстаўлены ў гэтай нячувана зладзейскай панаме... І вось аказываецца, што і афіцыяльная вэнгерская „царква“ якраз мела свайго прадстаўніка сярод фальшываманэтчыкаў, дый ня толькі звычайнага сьвяшчэньніка, але—самога біскупа.—Япіскап Заздравец, нейкі „палявы“ ці ваенны, як сам

заявіў, ведаў усё, што рабілася, але „маўчаў з патрыятычных відаў“...

Дык цяпер можна супакоіцца: ўся тая тройца, адзінасутная і непадзельная, якая зьяўлялася заўсёды наймацнейшай „апорай трону“: абшарніцтва, арыстакратыя, паліцыя і духавенства—аказалася поўнасьцю прадстаўленай у вэнгерскай спробе адбудаваць манархію за фальшывыя чужаземныя грошы.

Прозьвішчы князя Віндзіш-Грэца, галоўнага паліцыянта Надэссі і япіскапа Задраўца павінны адгэтуль стацца клясычнымі...

Найцікаўней, што магутнае вэнгерскае магнацтва робіць спробу ратаваць ад суду нават самога Віндзіш-Грэца, які ўжо звольнены з вастрогу і адданы пад дасьлед дактароў, як — „ненармальны“...

# Сойм.

## Паседжаньне Сойму 15 студзеня.

**Пас. Панятовскі** (Вызваленьне) раптам патрэбаваў зьмяніць парадак дня, падаўшы прапазыку—выразіць недаверые ўраду за тое, што ён мае распарцэляваць у наступным годзе толькі 50 тысячаў гэктараў зямлі замест 200 тысячаў, як трэба паводле новага закону.

Але гэта была пустая дэманстрацыя, бо Вызваленьне добра ведала, што для зьмены павесткі дня патрэбна згода ўсяго Сойму. Дык прапазыка аўтаматычна правалілася.

Пасьля гэтага „на кур‘ерскіх“ праехаў праз Сойм „устаў аб чужаземцах“—у трэцім чытаньні. Прапазіцыя аб адасланьні ў камісію шкоднага злосна-паліцэйскага ўставу, скіраванага перад усім проці адвечнага насяленьня „Крэсаў“, правалілася. Устаў прынята большасьцяй толькі 104 гал. проці 94.

Гэты рэзультат галасаваньня апазыцыя, а перад усім прадстаўнікі нацыянальных меншасьцяў, спатыкаюць вострым пратэстам, за які старшыня штрафуе ўкраінцаў Войцюка і Хруцкага.

Эндэцка-пэпээсаўская большасьць адкінула ўсе папраўкі, маючыя мэтай хаця трохі аслабіць шкоднасьць уставу. Прыняты толькі некалькі добрадушных пажаданьняў і рэзалюцыяў, каб урад падаў новы законапраект аб... тых-жа чужаземцах і — каб зараз-жа выдаў загад аблягчыць выдачу пашпартоў насяленьню „Крэсаў“.

У канцы Сойм разглядаў законапраект Ст. Грабскага—проці вучыцельства ў Польшчы.

## „Адпачываюць“.

Канвэнт Сэньёраў Сойму пастанавіў адлажыць агульныя паседжаньні аж да канца студзеня. Гэткім чынам наступнае паседжаньне мае адбыцца 1-га лютага.

У гэты перарыў бюджэтная камісія Сойму разгледзіць справаздачу Дзяржаўнага Кантролю аб тым, як міністэрствы і іх чыноўнікі расходуюць асыгнаваныя Соймам у бюджэце народныя грошы.

## Ахова кватэрантаў у соймавай камісіі.

Як ведама, яшчэ хіена-пястоўскі ўрад п. Вітаса правёў праз Сойм закон, які па польскаму звычаю быў гучна названы „законам аб ахове лёкатараў“, хаця ўзапраўднасьці меў мэтай і зьмастам — ахову кішані дамаўласьнікаў. Акурат, як сучасная абшарніцка-пэпээсаўская „зямельная рэформа“. І вось, у зьвязку з новай хваляй агульнай бяды ў Польшчы зусім недарэчным зьяўляецца тое, што толькі панам дамаўласьнікам штo-тры месяцы робіцца ляпей. Дык вось, пад націскам соймавай лявіцы, урад згадзіўся ўнясьці пэўныя папраўкі ў гэты крыўдны для агромнай масы працоўнага насяленьня закон. І вось, соймавая камісія ў паразуменьні з урадам пастанавіла спыніць падвышку кватэрнай платы — 1) для ўсіх безработныхі 2) для ўсіх кватэраў з аднаго пакою, 3) для ўсіх кватэрантаў, зарабляючых — нежанатых па 80 зл. у месяц і сямейных 120 злот. Апрача гэтага, час выкананьня прысудаў аб высяленьні незаможных кватэрантаў іншых разрадаў павялічываецца з паўгадавога на гадавы.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Польскія генаралы аб скарачэньні службы ў войску.

Ваенны міністар Польшчы ген. Жэліговскі заявіў у вайсковай камісіі Сойму, што ён стаіць за скарачэньне службы ў войску да аднаго году (з 2-х, як цяпер у Польшчы). Гэтая думка ген. Жэліговскага выклікала вострую крытыку былага ваеннага міністра ген. Сікорскага, які кажа, што скарачэньне, якое выклікана перад усім недахватам грошаў у Польшчы, тэхнічна—без аслабленьня аружнай сілы дзяржавы—можа быць зьдзейсьнена толькі паволі. Цяпер ён лічыць магчымым толькі скараціць час службы да паўтара года. Бо, кажа ён, за адзін год жаўнер не асіліць усяго таго, чаго вымагае ад яго сучасная ваенная тэхніка.

### „Ультыматум“ ген. Жэліговскага.

„Рэчпаспаліта“ даносіць, быццам ген. Жэліговскі падаў прэм. Скшыньскаму ультыматыўную заяву, што астанецца ваенным міністрам толькі пад варункам — безадкладнага павароту Яз. Пілсудскага на службу ў армію.

Можа, у зьвязку з гэтым былі чуткі аб адстаўцы мін. Жэліговскага?

### Вытрымае, ці ня вытрымае?!

„Кур. Поран.“ паведамляе ізноў, што мін. Морачэвскі цяпер ужо аканчальна наважыўся выйсьці з ураду, які робіць усё, што хоча эндэцыя, а на пэпээсаўцаў не зварачае ніякае ўвагі!

### Развал лодзкага прамысловага раёну.

Яшчэ нядаўна адбывалася масавая эміграцыя (выезд заграніцу) цэлых фабрык з лодзкага прамысловага раёну. Але гэтая акцыя нядаўна яшчэ адбывалася больш-менш плянова. Цяпер пачалося ўжо панічнае і павальнае ўцяканьне фабрыкантаў з Лодзі, якія задарма распрадаюць фабрычныя машыны і ліквідуюць свае прадпрыемствы... Стварылася навет цэлая спэцыяльная кампанія з францускіх, бэльгійскіх і італьянскіх інжэнераў, якая занялася вывазам гэтых машын за-граніцу...

Вось вынікі вашага „ратаваньня прамысловасьці“, паны пэпээсы!.,

### Безрабоцьце заканамерна расьце.

Паводле афіцыяльных даных ад 25 сьнежня да 2 студня лічба безработных у Польшчы павялічылася ізноў на 11.456 чалавек, а ад 2 студня на 9—дык аж на 14.914 чалав., дайшоўшы лічбы 328.620 асоб.

Яшчэ месяц назад тыднёвы прырост безработных азначаўся ў сярэднім лічбай 12 тысячаў; у апошні месяц гэтая тыднёвая сярэдняя лічба ўжо выражаецца цыфрай 15 тысячаў.

Вось, найлепшы адказ на ўсе тыя „меры“, якія—у згодзе з польскімі капіталістамі—праводзяць праз „свой“ урад польскія сацыялісты...

### Вугальле—за апэльсыны.

Ведама-ж, што сваё вугальле з так патрэбнага для „моцарствовасьці“ Польшчы Горнага Слёнску Польшча ня мае куды падзець. Ей самай, дзеля яе ўпадаючай прамысловасьці гэты вугаль непатрэбен. Нямеччына яго не бярэ, а далей вязьці не аплоціцца, бо паны Карфантыя не дарма-ж „здабылі аружжам“ гэты Слёнкс дык—і ня хочуць танна прадаваць.

Вось жа новы польскі пасол пры Мусоліні, эндэк Казіцкі, зрабіў з італьянскім урадам вельмі „карысную“ ўмову. Польчша вывезе ў Італію паўмільёна тоннаў таннага вугальля для італьянскагага флёту, але „за тое“ польскі ўрад абязуецца пусьціць у край значную партыю італьянскіх апэльсінаў.

У выніку гэтакай гаспадарчай палітыкі польскі работнік будзе танным вугальлем падтрымліваць прамысловасьць—не свайго, але чужога, варожага наагул пралетарыяту, краю... А польскія пані і паненкі будуць „за гэта“ есьць каштоўныя апэльсыны, падтрымліваючы фашыстаўскіх абшарнікаў і італьянскіх „пястоўцаў“...

### Сколькі абшарнікі вывязьлі пшаніцы.

За ўвесь час ад восені да новага году вывезена з Польшчы абшарнікамі пшаніцы — паводле афіцыяльных даных—940 тысячаў цэнтнараў, ці—аж на 380 тысячаў больш, чым гэта дазваляе спажываньне пшаніцы ў краі...

Беларускіх сялян гэта мала клапоціць, бо-ж ведама, што не для іх пякуцца ў Польшчы белыя булкі. Але справа ў тым, што з вясны пачнецца ізноў, як гэта было летась, зваротны ўвоз у Польшчу пшоннай мукі з-заграніцы, на якую пойдзе ізноў увесь запас даляраў Польскага Банку. А ў выніку—ізноў яшчэ ніжэй паляціць польскі злоты...

### Катастрофа вышэйшай школы ў Польшчы.

Толькі што адбыўся ў Варшаве зьезд рэктароў польскіх вышэйшых школаў, які прыняў, паміж іншым, рэзалюцыю, у якой кажа, што прапанаваная ўрадавым „ахоўцам асьветы“ ў Польшчы эканомія ў бюджэце — выкліча зачыненьне ўсіх вышэйшых школаў у Польшчы, бо ім ня хопіць грошаў навет на апал і сьвятло...

### Новы пасол-камуніст у Сойме.

На мейсца ўцёкшага ў ССРР пасла Круліковскага прадстаўніком польскіх камуністаў у Сойме мае быць Адольф Варшавскі, выдатны публіцыст, які піша пад псэўданімам (літэратурнае прозьвішча) Варскі. Варшаўскі быццам жыве ня ў Польшчы, але заграніцай. — Ведама-ж бесьпячней!

### Гранаты ў мытным урадзе.

У мытны ўрад (таможня) у м. Залешчыкі, Тарнопальскага ваяв., кінуты 5 гранатаў, ад выбуху якіх зусім зруйнаваны ўвесь гмах мытніцы.

### Новы скандал у лодзкай паліцыі.

У шляхотнай паліцэйскай сям‘і Польскай Рэспублікі—новы скандал. На гэты раз—у Лодзі.

# „З глыбіні душы“.

Пад такім цікаўным назовам у сьвяточным нумары органу кракаўскіх прафэсароў („Czas“) зьмясьціў артыкул адзін з найвыдатнейшых прадстаўнікоў польскай вышэйшай школы—праф. Розвадовскі...

Толькі-што мы падалі ў нашай газэце цікаўныя і сумныя для сучаснага польскага грамадзянства прызнаньні павадыра польскага нацыяналізму—Дмовскага. Гэны, пэўна-ж, аўтарытэтны знаўца „польскай душы“ нарысаваў яе зборны партрэт такімі цёмнымі і агіднымі фарбамі, што нават мы, якія ня маем зашмат прычын і повадаў кахаць і шанаваць сучасныя праявы гэтай „нацыянальнай душы“, павінны былі запратэставаць, заявіўшы, што ўсё тое, што кажа Дмовскі—шчырая праўда, але толькі адносна да — „крыві прагнучай“ панскай, шляхоцкай „душы“ сучаснай буржуазнай Польшчы, запраўды-ж „паўстаўшай з мёртвых“, каб душыць жывыя народы...

Яшчэ глыбей—„з глыбіні душы“ — угледзіў усю маральную нягоднасьць гэтай ляніва-паразытнай шляхоцка-буржуазнай польскай душы, узяўшайся за будаваньне вялікага сучаснага дэмакратычнага гаспадарства,—другі выдатны прадстаўнік сучаснай Польшчы.

Калі Дмовскі больш ганьбіў гаспадарча-тэхнічную нязданасьць польскага (панскага) „нацыянальнага характэру“, дык, праф. Розвадовскі зварачае ўвагу пераважна на расхістаныя маральныя падставы яго, без якіх наагул ня можна пачаць ніякага будаваньня гаспадарства...

„Ведаю добра, што адказнасьць за ўсё тое, што робіцца цяпер, ляжыць на ўсім народзе і раскладаецца на ўсіх. Бо-ж—ані Сойму, ані Сэнату, ані ўрадаў, якія зьмяняюцца, як у батлейках, ані благой гаспадаркі, ані дурных установаў, ані нячэснасьці—не накінуў нам ніхто звонку...

Але-ж адказнасьць за ўсё гэта няроўна раскладаецца на ўсіх: бязумоўна, адказнасьць простага работніка—меншая, як міністра-ж, жаўнера—менш, як генарала; меншая ў чалавека, які не мяшаецца ў палітыку, чым ў соймавага пасла...

„Найвялікшая-ж адказнасьць—Сойму, Сэнату і ўраду...

„Вашыя прозьвішчы,—кажа да польскіх палітыкаў аўтар, —хаця й ня вельмі слаўныя, усё-ж такі ўвойдуць у гісторыю. Дый калі прысуд будучых пакаленьняў, прысуд гісторыі скажа, што польскі **народ ня быў варты вернёнай** (чужымі рукамі! *Рэд.*) **незалежнасьці і ўласнай дзяржавы**, дык гэты прысуд гісторыі ўвекавечыць перад усім вашыя прозьвішчы...

„Але гэты прысуд ня звольніць ад віны таксама і тых, што вялічаюць сябе інтэлігенцыяй народу, сольлю роднай зямлі... (прыпомнім тут адказ польскіх пісьменьнікаў на закіды францускіх! *Рэд.*). Ім усім суд гісторыі перад усім паставіць пытаньне: „Дзе-ж вы былі тады, паночкі,—чаму-ж вы тады ня сьведчылі праўды? Чаму-ж вы тады ня выкрасалі з сябе моцнай волі і ня змусілі вашых сьляпых правадыроў, каб яны ўвайшлі на шлях Праўды?!“

„Гаворыцца наагул і ўсюды, не хаваючы нічога, пра асабістую прагавітасьць, якая жыруе, як сьвіньня ў карыце,—пра марнаваньне грамадзкіх грошы, пра падкупнасьць і нязданасьць партыяў... Гаворыцца ўсё—з прозьвішчамі, з падробнасьцямі,—можа што і паравялічываецца.—Але ў канцы канцоў гэткія весткі пускаюць у сьвет—самі-ж паслы, сэнатары і міністары (пэўна-ж, кожны—не аб сабе, але аб сваіх палітычных непрыяцелях!—*Рэд.*). Што гэта наагул—сумня праўда, гэта мы бачым з вынікаў, з таго, што сталася цяпер. І чаму-ж на ўсё гэта няма публічнай кары, няма суду, няма яўнасьці, але ўсё астаецца толькі „чуткамі“ дый „плёткамі“? Чаму сьледзтва (калі яно распачата нават) не дае ніякага рэзультату? Ці-ж гэта — затым, што ўсе зьяўляюцпа супольнікамі ў праступленьнях, зьвязанымі кругавой парукай?!—Дык дзе-ж і пашто-ж у нас дзяржаўная пракуратура?!...

„Ці-ж у Сойме і ў Сэнаце, ці сярод адказных урадоўцаў няма людзей чэсных, чыстых, якія любяць народ і маюць трохі адвагі?“...

Праф. Розвадовскі радзіць запраўды-ж гэраічны спосаб вызваліцца ад гэтага маральнага маразму (дзядоўскай немачы).—Калі ўсе уладныя і кіруючыя чыньнікі сучаснае Польшчы гэтак маральна гнілыя, дык найлепшае, што яны яшчэ могуць і маюць учыніць на карысьць краю, гэта—зрабіць сабе, як кажуць японцы, — „харакіры“ (ўласнаручна распароць сабе нажом бруха)...

„Сам Сойм і Сэнат павінны зрабіць над сабой харакіры,—зрабіць штось у родзе „дзяржаўнага замаху“—на сябе... Хай пасьля бясслаўнага жыцьця прынамся ачысьціцца гэройскай сьмерцяй. Хай вінавайцы пагэройску прызнаюцца да сваіх праступленьняў... Хай некалькі найшчырэйшых пачнуць дый пацягнуць за сабой або — змусяць да харакіры—рэшту.—Бо-ж нямаш больш забойчага і лепшага пракурора, як супольнік...

„Вось гэта было-б другім, яшчэ большым і пякнейшым цудам над Віслай...

„Калі вы ўвойдзе на гэты шлях, дык вашы бацькі, дзяды і прадзеды, пакаленьні барацьбітаў і мучанікаў за волю і праўду, за напраўу Рэчыпаспалітай. — прымуць некалі вас, цяперашніх грэшнікаў,—пачэсна... Ваша чалавечая вартасьць

Сам галоўны камэндант мястовай паліцыі, нейкі Врублевскі, папаўся ў хабарах дый вымагацельстве. Ведама-ж, калі бярэ дый яшчэ гвалтам спаганяе, дык зразумела-ж, як кажуць, „дае жыць і другім“—сваім падуладным...

Што-ж зрабілі паліцыянту-хабарніку?—Як пішуць газэты, пакаралі страшэнна: перавялі з сталіцы ваяводзтва—на „Крэсы“...

### Новая банкаўская панама.

У Катавіцах (на Горным Сьлёнску) арыштаваны два дырэктары банку, якія, спэкулюючы на спадку злотага, незаконна зарабілі за 3 тыдні 50 тысяч даляраў і 400 тыс. злотых. Абодвух арыштаваных грабежцаў, ведама-ж, звольнілі зараз-жа —пад залог 40 тысяч злотых.

Ясна-ж: гэшэфт вельмі выгадны, бо даў шмат чыстага зыску...

## Заграніцай.

### Адклад ці правал канфэрэнцыі аб разбраеньні?

У цеснай сувязі з „пацыфікацыяй“ буржуазнага сьвету стаіць і адклад праектаванай міжнародавай канфэрэнцыі ў справе разбраеньня.

Амэрыка адмовілася прыняць учасьце ў ёй, калі, як трэбуюць Англія і Францыя, разбраеньне мае адбывацца ня толькі на сушы, але і на моры.

Урад ССРР фармальна запратэставаў проці таго, што канфэрэнцыя мае адбыцца ў Швайцарыі, дзе быў забіты пасол ССРР Воровскі.

### Дзіра ў „Усходнім Лёкарно“.

Эстонія даўно ўжо зрабілася англійскай базай на Балтыцкім узьбярэжжы проці ССРР і атрымала даручэньне ад Чэмбэрлена — за ўсялякую цану стварыць так-званае „Усходняе Лёкарно“, ці „пакт“ Балтыцкіх дзяржаў, скіраваны проці ССРР. Урад Эстоніі, здавалася, ужо так удачна працаваў у гэтым напрамку! Аж раптам эстонская прэса апублікавала сэнсацыйную вестку, быццам Літва, не дачакаўшыся гэтага процірадавага „пакту“, зрабіла такі самы „гаранцыйны пакт“, але—з ССРР.

Ну, зрабіла, не зрабіла, але гэткі пакт ужо абгаворany праехаўшым нядаўна праз Літву Чычэрыным, дык усё роўна, як і гатовы да падпісу...

Сярод эстонскіх „чембэрленчыкаў“ — перапалох...

Трэба дадаць, што Літва настолькі зьвязана ўжо з Латвіяй, што новы „пакт“ так ці інакш павінен пацягнуць да сябе і апошнюю....

Дык хутка з усіх „балтыцкіх мацарстваў“ для „Усходняга Лёкарно“ пану Чэмбэрлену астанецца... адзін п. Пілсудскі!

### Лёкарнскія трактаты пачалі зьдзяйсьняцца?!

Англійскія газэты пішуць, быццам Нямеччына запрапанавала Польшчы грашовую пазыку—на ратаваньне яе скарбу. Але за гэта патрэбавала „пэўных зьменаў у так-званым Гданскім калідоры (значны пас адданай Польшчы чыста нямецкай зямлі—каб даць выхад Польшчы да мора, а адначасна—аддзяліць Нямеччыну ад Усходняй Прусіі). Быццам Польскі ўрад згаджаецца на „нэйтралізацыю“ гэтага калідора—пад варункам адначаснай нэйтралізацыі і ўсей Усходняй Прусіі, — але адмаўляецца ўступіць Нямеччыне — „бясспрэчна польскую тэрыторыю“...

Нэйтралізацыя азначае, што на тым ці іншым абшары зямлі няма ані войска, ані ваенных крэпасьцяў, ані складу.

### Пачатак развалу Румынскай манархіі.

Нашы спадзяваньні адносна да таго, што ў Румыніі робіцца нешта значна важнейшае, чым аб гэтым паведамляюць сьвет румынскія „Паты“, спраўджаюцца. Аказываецца, што ў Румыніі дынастычная авантура амаль не стварыла — у аднэй манархіі аж двух манархаў... Аказываецца, як даведаліся мы... з маніфэсту вэнгерскіх сацыялістаў, што прынц Кароль зусім недабраволньна зрокся правоў да трону... Гэты прынц Кароль стаяў на чале румынскіх нацыяналістаў і — у паразуменьні з вэнгерскімі манархістамі — меў быць абвешчаны каралём „Нова-Румыніі“... У змове прымалі ўчасьце выдатнейшыя нацыяналісты Румыніі з праф. Кузай на чале. Гэты праф. Куза толькі-што арыштаваны ў Будапэшце (сталіца Вэнгрыі) і выданы румынскім уладам.

Што-ж гэта за „Новая Румынія“, якая захацела мець свайго ўласнага караля, незалежнага ад стара-румынскага бацькі? Гэтая „Новая Румынія“ мела скласьціся якраз з тых вельмі значных абшараў былой Вэнгрыі і Аўстрыі, якія Антанта—проці волі іх насяленьня—падаравала абшарніцкай Румыніі..

Далей аказываецца, што ўся акцыя румынскіх нацыяналістаў... проці румынскай манархіі стаіць у самым цесным зьвязку з акцыяй вэнгерскіх манархістаў-фальшываманэтчыкаў, якія за ўсялякую цану хацелі ўзьвясьці на вэнгерскі трон прынца Альбрэхта Габсбургскага...

Гэты цікавы плян удалося разьбіць румынскай тайнай паліцыі, якая ў пару даведалася аб усім... Тады разгневаны „татка“ і пасьпяшыў пазбавіць „сынка“ усіх правоў да трону, адначасна выдумаўшы аб ім нейкую агідную рамантычную брахню...

Але на гэтым развал Румынскай манархіі, пачаўшыся з развалу каралеўскай сям‘і,—ня спыніўся... Пазбаўлены ўсіх правоў румынскага грамадзяніна прынц Кароль, аказываецца, мае вялікія ўплывы і многа прыхільнікаў у краі, а перад усім—сярод арміі... Ведама-ж, аб усім гэтым маўчыць скаваная асадным палажэньнем сталічная румынская прэса. Але з баўгарскіх крыніцаў паведамляюць, што па ўсім краю ідуць вялізарныя маніфэстацыі ў чэсьць апальнага прынца Кароля. Насколькі шырока захоплена рухам армія, сьведчыць—раптоўнае выдаленьне з арміі каля 40 самых толькі генаралаў!

На прыкладзе Румыніі яшчэ лепш, як на кім іншым, відаць усю штучнасьць і нятрываласьць зьлепленых „вэрсальскімі ганчарамі“ паваенных дзяржаўных „спарышоў“. Ясна відаць, як гэтыя запраўды-ж гліняныя гаршкі, стукаючыся адзін аб аднаго, разьбіваюцца на чарапкі... Ня маючы ані нацыянальна-палітычнага зьместу, ані эканамічнай сувязі, новыя „вялікія“ дый „мацарствовыя“ вэрсальскія дзяржаўныя аб‘яднаньні, пазбаўленыя ўласнай унутранай жыцьцёвай сілы, разваліваюцца на нашых вачох...

### Страшная катастрофа.

У шахтах каля м. Вільбэртона засыпаны зямлёй больш за паўтары сотні работнікаў. 65 трупаў ужо выкапаны, 93 прапалі бяз весьці...

Пасьля гэтай катастрофы атрымана вестка аб падобнай у іншай шахце у тэй-жа Англіі.

## Куток малодшых.

### Бура.

Сьнег... Бура... Галалёдзіца.....
Віхура усё болей расходзіцца....
Б‘е віхор гальлё ў шыбы вaконныя.....
Пяе песьні разгульна—разгонныя....
Ді і... а а.. а.. рі і... а.. а.. а..
Нібы б‘юцца —змагаюцца волаты:
Бразгаціць іх аружжа іх золата...
Шуміць бура... гудзе, ня супыніцца...
Коні фыркаюць, скачуць і пеняцца—
Ді і... а.. а а... рі і... а.. а.. а...
Вось ізноў іхны бой узгараецца...
Вось ізноў іх мячы сустракаюцца...
Бура бахае... рве свае прывязкі
І зрывае дахоўе і вывяскі...
Ді і... а.. а а.. рі і... а.. а.. а..
Сьнег... Бура... Галалёдзіца...
Віхура ўсё болей расходзіцца...
Б‘е віхор гальлё ў шыбы вaконныя,
Пяе песьні разгульна-разгонныя...

1926 г.

### Штрых.

Мігая лямпа. Ноч маўчыць...
Бязьлісты, голы сад шуміць...
Гадзіньнік стукае цік... цік...
І аднатонны яго зык...
цік—цік, цік—цік...

Сшыток раскрыты прада мной—
Імчыцца дум бязконцы рой...
Бязьлісты, голы сад шуміць...
Мігае лямпа... Ноч маўчыць...
цік—цік, цік—цік...

1926 г. **Хв. Ільяшэвіч.**

ня будзе тады абмяжоўвацца толькі... соймавай легітымацыяй... А вашыя сыны, якім вы хіба-ж ня ўсе можаце чэсна глянуць у вочы, дый вашы ўнукі—будуць гаварыць аб вас з падзякай і з пашанай...

„Дык сьпяшыце-ж!—Бо прыйшла ўжо апошняя пара... Агіда ўжо дайшла нам да самага горла... Інакш—ганьба. А за ганьбай—аканчальны заняпад“...

Да гэтых моцных слоў шчырага дый... мудрага (як мудры паляк пасьля такой яўнай для ўсіх шкоды!)—паляка-прафэсара нам амаль няма чаго дадаць...

Можна было-б толькі запытацца: дзе-ж і ў чым бачыць п. Розвадовскі выхад з заняпаду? На якія ён сілы разьлічае, што яны паднялі-б упаўшую маральна Польшчу?

Праф. Розвадовскі, вымагаючы харакіры ад усей „дэмакратычнай Польшым“, спадзяецца, што запраўдную Польшчу ацаліць і аздаровіць — манархія! Але-ж — на якія сілы абапрэцца гэная манархія? — Ды акурат на тое найгоршае, што ёсьць у сучаснай, паўстаўшай з магілы, **шляхоцкай** Польшчы—на яе найбольш прагавітае і найбольш няздарнае абшарніцтва...

Ну, у гэткую санацыю дык мала хто верыць у Польшчы, апрача—кучкі аўстрыяцкіх вернападданых прафэсароў!

Мы верым—**ня ў гнілыя вярхі, але—ў здаровыя нізы**—у працоўныя масы польскага селяніна і работніка.

І іх мы клічам да „санацыі“ сучаснай панскай Польшчы, не чакаючы ад яе—харакіры...

## ХРОНІКА.

**У Цэнтр. Белар. Школьнай Радзе.** У нядзелю, 17-га студзеня, адбылося пад старшынствам пасла Б. Тарашкевіча паседжаньне Ц. Б. Шк. Рады, на якім вырашаны, паміж іншым, два важныя пытаньні: аб дапамозе незаможным студэнтам—беларусам і аб выпуску літэратурна-грамадзка-інфармацыйнага альманаху.

**„Маланка“.** Выйшаў з друку № 1 двохтыднёвае гумарыстычнае часопісі „Маланка“. Выданьне мае вельмі добры выгляд і багаты зьмест, пакідаючы за сабой далёка ранейшыя спробы ў гэтым кірунку.

Пажадаем новай часопісі ўдачы!..

**Заняпад Беластоцкага прамысловага раёну** Агульны катастрафічны гаспадарчы крызіс у Польшчы адбіўся, зразумела, і на адзіным вялікшым прамысловым раёне нашай Заходняй Беларусі—Беластоцкім.—На пачатку новага году спыніў працу цэлы рад больш-менш значных фабрык у Беластоку: 2 фабрыкі сукна, адна прадзільня і адна фабрыка фанерная.

Адначасна спыніліся 2 фабрыкі трыкатажу ў Сувальшчыне.

Усяго выкінуты на брук больш 300 безработных.

**Забурэньне звольненых работнікаў у Беласточчыне.** У м. Лапах, Беластоцк. ваяв., звольненыя работнікі чыгункавых майстроўняў пачалі бунтавацца. 80 работнікаў, як паведамляе „Дзен. Віл.“, уварваліся ў канцэлярыю варштатаў з дамаганьнем выплаты пэнсіяў за працу.

Газэта дадае, зразумела, што на гэтыя забурэньні падбівалі работнікаў камуністы... Пэўна-ж, што так. Але—якія „камуністы“ падбілі адміністрацыю майстроўняў—не плаціць работнікам запрацаванае імі пэнсіі, ня кажучы ўжо аб выкіданьні ўзімку працаўнікоў на вуліцу?!

**Знаменныя азнакі.** Рада міністраў, на прапазіцыю мін. ўнутраных спраў, пастанавіла—зрабіць усялякія аблягчэньні дзеля пераезду жыхараў пагранічнага пасу на той бок польска-радавай граніцы, якія, маючы парэзаную граніцай зямлю, пажадаюць перабрацца на жыцьце ў ССРР...

Мы ня маем яшчэ точнага тэксту прапазіцыі міністра, але, відаць, яна зроблена пад націскам прашэньняў і дамаганьняў гэтых жыхараў, якія раней, відаць, жадалі жыць на польскім баку граніцы, а цяпер смак іх да Польшчы рашуча зьмяніўся... Пакуль што пачынаецца ад паасобных выпадкаў, якія, аднак-жа, выклікалі ўжо агульную адміністрацыйную меру.

**Праступнікаў шлюць у паліцыю на „Крэсы“!** Навет польская прэса абураецца ўжо на тое, што Варшава насылае да нас на „Крэсы“ паліцыянтаў, якіх выкідаюць за розныя злачынствы са службы ў Польшчы. „Przegl. Wiecz.“ і „Słowo“ з абурэньнем пішуць аб тым, што выдаленага з лодзкае паліцыі за надужыцьці камэнданта паліцыі м.Лодзі, нейкага Врублевскага, улада назначыла на „Крэсы“.

Добра ім пісаць: а вось нас дык за гэткія пісаньні „за непашану ўлады“ цягнуць пад суд і... вымагаюць, каб **такую** ўладу мы шанавалі!..

„Słowo“ трэбуе, каб усе гэныя паліцыянты-праступнікі, сасланыя „за кару“ на нашы „Крэсы“, былі вернены Варшаве назад.

Зусім слушна.

### Аб праве прадаваць і пашыраць газэты.

Некаторыя з грамадзян зьвяртаюцца з просьбамі да рэдакцыі газэты, або надсылаюць нам у Сойм запытаньні аб тым, ці могуць яны і ці маюць права заняцца прадажай газэт. Гэта найбольш цікавіць разьбітнейшых сялян, асабліва сялян падместачковых, а таксама і мястовых работнікаў, якія хацелі-б пашыраць нашую газэту ў часе фэстаў, на рынках у targовыя дні на ярмарках і інш. Паведамляюць яны нас, што спрос на газэту ёсьць вялікі на мяйсцох, але што пры агульным прасьледаваньні з боку паліцыі дык гэта будзе нібы-то рызыкоўна: каб часам прадавец газэт ня быў адарваны ад сям‘і і ня быў пасаджаны на казённы хлеб.

Чытаючы гэтыя лісты, скіраваныя, як да нашага Соймавага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, так і да рэдакцыі „Беларуская Ніва“, даводзіцца пераконвацца ў тым, што разьбітнейшыя сяляне ды работнікі адчуваюць патрэбу на мяйсцох у пашыраньні газэты, хочуць прылажыць сваё стараньне да гэтага, некаторыя з іх не баяцца навет рэпрэсіяў, але адно—хацелі-б ведаць, ці істнуюць якія хоць невялічкія гарантыі свабоды таму чалавеку, які сьмела, адкрыта і зусім вольна пачаў-бы гандаль газэтамі па кірмашох і рынках, на вуліцах гарадоў і мястэчак. Некаторыя пры гэтым пытаюцца — ці патрэбна мець і ад якой улады пасьведчаньне на права прадажы газэт, колькі гадоў павінен мець прадавец газэт і г. д., а роўна—ці трэба даставаць патэнт на гэта, або выкупляць асобны прамысловы білет.

Перш, чым даць точную спраўку аб законе, які дазваляе прадажу газэт без атрыманьня на гэта якога-небудзь спэцыяльнага дазволу ад начальства, або патэнту ці прамысловага білету, прыпомню толькі тым сялянам, якія бывалі ў Вільні, у Горадні ці ў Беластоку, што яны напэўна бачылі там, а як у Вільні дык мусіць навет і чулі, як малыя хлапцы з жмутом газэтаў пад пахай бегаюць па вуліцах і на ўвесь голас выкрыківаюць назву газэты, якую яны прадаюць. Асабліва, шумна прадаюцца ў Вільні гэнымі хлапцамі жыдоўскія вечаровыя газэты. Ну, і мусіць ніхто з сялян, будучы ў Вільні, ня бачыў, каб нехта згроб гэтага хлапца за каўнер і пацягнуў яго ў „бацькаву хату

белую" за тое, што ён крычыць на вуліцы, прадаючы газэты. А трэба ведаць, што гэтыя хлапчукі, зарабляючы па некалькі грошаў ад прадажы кожнага экзэмпляру газэты, ні з якім начальствам і ня хочуць мець дзела: яны ведаюць толькі адміністрацыю тэй газэты, якую яны прадаюць; забіраюць адтуль газэты на продаж, дагаварваюцца — колькі адміністрацыя газэты будзе даваць ім зьніжкі на кожным экзэмпляры і — кончана: ніякага патэнту, ніякага пасьведчаньня ад начальства, ніякага прамысловага білету яны ня маюць.

З гэтага можна-б было тады дагадацца, што мусіць істнуе нейкі закон, што дазваляе гэткую вольную прадажу. Ну і вядома, што гэты закон мае сілу ня толькі ў большых гарадох, але і ў мястэчках, і ў сёлах. Праўда—скажуць некаторыя—то-ж у горадзе быць можа і можна,—там ёсьць каму хутчэй заступіцца за пакрыўджанага, але ў мястэчку трудней—бо там надта вялікую сілу мае паліцыя і можа-быць будзе перашкаджаць у прадажы беларускіх газэт? Ваўка баяцца — у лес не хадзіць! Перашкаджала паліцыя складаць і дэклярацыі за беларускую школу, а вось-жа людзі складалі, і зложана навет паасобных дэклярацыяў больш як 15.000 штук. Магчыма, што і ў дзеле прадажы газэт будзе перашкаджаць паліцыя ці які-небудзь кручок будзе чапляцца, але на гэта ня надта трэба зьвяртаць увагі, ня варта гэтага баяцца.

Кожны, хто маніцца, або хоча заняцца прадажаю газэт, павінен ведаць зьмест **„Дэкрэту аб складах друкаў на абшарах былога расейскага забору" ад 7./II. 1919 году** (Dziennik Praw 1919 № 14, pozycja 146). У гэтым дэкрэце падробна вызначаны парадак, як адчыняць кнігарні для гандлю кнігамі, ці як адкрыць пазычальню кніг, а таксама які парадак павінен быць і якія трэба мець паперы ад улады адміністрацыйнай на права прадажы кніг на вуліцах і пляцах, г. зн. прадажа кніг у разноску ці ў развозку.

Вось-жа наконта прадажы кніг — калі гэта каго зацікавіць — больш падробна напішу ў другі раз, або можна іначай. Хто хоча закласьці кнігарню ці пазычальню кніг, або хто хацеў-бы заняцца гандлем кнігамі ў разноску ці ў развозку, дык той можа праз наш Соймавы Клюб Грамады дастаць успомнены вышэй Дэкрэт і тады ўжо дабівацца ад мяйсцовага начальства патрэбных яму папераў.

Але варочаюся да права прадажы і пашырэньня газэт. Арт. 9 успомненага Дэкрэту ад 7./II. 1919 г. мае гэткі зьмест:

„Прадажа друкаў ня ў кнігарнях, а на вуліцах і пляцах праз разноску, або развозку дазволена кожнай асобе, не пазбаўленай правоў, або не абмежаванай у правох па суду, калі гэтая асоба дастане **ад адміністрацыйнай улады (Староства) пасьведчаньне,** упраўняючае да выкананьня гэтае прафэсіі. **Гэтыя пастанаўленьні не адносяцца да прадажы на вуліцах газэт і журналаў** (dzienników i pism perjodycznych)".

Канец гэтага арт. 9 ясна паказвае, што жадных фармальнасьцяў не патрэбна выпаўняць, жадных папераў ад начальства не патрэбна мець на права прадажы газэт і журналаў. Або інакш — як сказана ў пачатку гэнага 9 артыкулу — **„Прадажа друкаў на вуліцах і пляцах праз разноску або развозку дазволена кожнай асобе** і толькі далей, дзе гаворыцца аб тым, што, калі хто хоча стацца **прафэсыянальным гандляром кнігамі** (мець сваю краму, або свой кіоск-будку), дык той павінен выпаўняць пэўныя фармальнасьці.

Зусім вядома, што ў Дэкрэце гэтым сказана аб прадажы друкаў толькі легальных, не забароненых уладай, г. зн. аб газэтах і журналах, якія друкуюцца вольна, адкрыта, на друкаваньне якіх рэдакцыя заўсёды маець паперы ад адноснай улады. Гэткія газэты можна вольна і адкрыта прадаваць „на вуліцах і пляцах", як сказана ў тым Дэкрэце. За прадажу нелегальных газэт, або навет і легальнай, але сканфіскаванай праз уладу, накладаецца кара. Так, у арт. 300 Кад. Карн. сказана: „Вінаваты ў пашырэньні друку, аб каторым яму ведама, што друк той ёсьць затрыманы распараджэньнем праўнай улады, будзе караны турмой да шасьцёх месяцаў".

І гэты артыкул закону я наўмысьля ўспомніў тут, каб прадаўцу газэт усё было ясна. Але мысьлю, што ані воднаму прадаўцу беларускіх газэт ня прыдзецца паносіць гэнай прадугледжанай законам кары, бо да гэтага часу ні адзін сканфіскаваны № беларускай газэты ў Вільні да вёскі ніколі не даходзіў: усе экзэмпляры канфіскаванага № газэты заўсёды забіраліся ўладай з памешканьня адміністрацыі газэты, або проста з друкарні, „зусім цёпленькія", толькі-што аддрукаваныя. Дык, значыць, навет паабмылцы прадавец нашых газэт ня мог-бы прадаваць сканфіскаванага №, бо ён да яго ня дойдзе.

А кара, аб якой успомнена вышэй, тады толькі можа быць вызначана ў такім значным разьмеры, калі—як сказана ў законе—**прадаўцу было вядома,** што прадаваны ім № газэты ёсьць сканфіскаваны. А калі не вядома, дык, значыцца, і кара ня можа быць гэткая.

А раз законам дазволена, дык мы павінны выкарыстаць тое, што лічым за патрэбнае для сябе. А калі-б хто небудзь з якога-б ні было начальства стаў-бы чапляцца да прадаўца газэт нашых, дык няхай знаёмыя бароняць яго, апіраючыся на закон, і адразу-ж паведамляюць нас, або рэдакцыю газэты—лістом, або яшчэ лепш тэлеграфічна. І мы тады на ўвесь сьвет разьнясём аб гэткіх панох.

Стацьцей гэтай я даю адказ на усе тыя лісты, што адрэсоуваліся нам у Сойм у павыжшай справе, або у рэдакцыю; паасобных адказау на прысланыя дагэтуль лісты высылаць ня будзем.

15./I. 1926 г. **Сым. Рак-Міхайлоўскі.**

**Хто спазьніўся з падпісной платай за студзень 1926 году, дык павінен прыслаць яе зараз-жа разам з падпіскай на месяц люты.**

# З жыцьця Горадні.

## Напад на пошту.

На шляху між Горадняй і Сапоцкіным некалькі бандытаў напалі на паштальёна, які вёз пошту ў Сапоцкін. Пабіўшы паштальёна, бандыты зрабавалі 4 грашовыя пакеты з Францыі і інш. карэспандэнцыю. Як заўсёды, запраўдныя спраўцы нападу ўцяклі. Але-ж—ці мала ў Горадзеншчыне беларусаў, каб нясьці адказнасьць дый даводзіць „спраўнасьці" паліцыі?

# Карэспандэнцыі.

## З кім па дарозе?

(З Пастаўскае гміны).

Беларускі Пасольскі Клюб, які дружна калісьці стаяў на груньце барацьбы адным фронтам за лепшую долю многапакутнага народу Зах. Беларускага,—падзяліўся.

Што за прычыны, давёўшыя да гэтага зьявішча, для нас,—выбаршчыкаў, астаецца дагэтуль няясным, а беларуская прэса як быццам сароміцца асьвятліць усебакова гэтае пытаньне.

Праўда, „Сялянская Ніва" крыху загаварыла аб гэтым і, навет, паказала сваім чытачам „вінавайца", які зламаў агульна-беларускі фронт толькі „за тое", што некаторыя сябры Клюбу не падпісалі „агіднай" камуністычнай праграмы ў зямельным пытаньні; але, відаць, чагосьці не дагаварывае, хоць і кажа: „Вось, дзе крыецца тая прычына, якая давяла да такога сумнага падзелу" (глядзі № 3 „Сялян. Нівы").

Чытаючы гэтыя радкі, нейк ня верыцца, што гэта піша орган сялянскі, які мусіць крыху ляпей ведаць пра далёка схаваныя думкі селяніна. І нудна робіцца на сэрцы чытача, што орган „сярмяжнікаў" можа „біцца" з сваімі „ворагамі" пазычаным у абшарнікаў аружжам.

Ці будзе пабіт „вінавайца" гэтага падзелу і такім аружжам, — пакажа будучына, а цяпер, ня будучы прарокам, можна сьмела сказаць, што беларускі народ настолькі палітычна ўзрос, што на дарозе да сваей гістарычнай мэты, якую ён ясна бачыць уперадзі,—не заблудзіць. Нам, беларусам, змардаваным ад усіх зьдзекаў, зьняваг, цяжараў, не па дарозе з тымі, хто ня мае для барацьбы за нас свайго аружжа, хто на кожным кроку думае: „Ці не замнога ўжо будзе"?

Той, хто йдзе бліжэйшым шляхам да злучэньня ўсіх беларусаў у адну вялікую, незалежную сям'ю, няхай не зважае на ўсе перашкоды, бо з тым пойдзе яго косьць ад касьці, кроў ад крыві—народ!

**П—ны.**

## Успаміны Калядамі.

(В. Запольле, гм. Пачапаўскай, п. Наваградз.).

Наша вёска такая, якіх многа параскідана па нашай абшырнай, многапакутнай Заходняй Беларусі. З віду здаецца яна чорнаю, цёмнаю і сьпіць без прасыпу, але ўсё-ж такі цікава прасачыць, што ў ёй рабілася ў мінулым годзе, які ў гісторыю запішацца чорнаю хварбаю. Пачну са школы. Падавалі дэклярацыі Інспэктару на родную школу на 46 дзяцей, але школы ня маем. Часам, будучы ў Наваградку, бацька зайшоўшы да Інспэктара запытаецца пра школу,— адказ адзін: адаслалі да Куратара,—і тут-жа рэкамандацыя адчыніць лепей... польскую! А яна, гэтая самая польская школа ўжо ў нас была, але праклёвала нейкі год дый сама сабою зачынілася, бо не змаглі змусіць пасылаць дзяцей у чужацкую школу ані штрафы, ані ніякія прымусы. І цяпер нашыя дзеці вучацца на вуліцы; як сьцямнее, за імі не прайсьці, часам, абрэшуць лепей за сабак. Паглядзіш на іх з сумам іншы раз, дый запытаешся: што з вас будзе, што вы ня вучыцеся?

Цяпер другое—падаткі. Падаткі, браткі мае, пра іх і гаварыць няма чаго, кожны з нас адчувае іх на сваёй уласнай скуры. Як той казаў: скубуць, бяруць і плакаць не даюць.

Далей—лес. Гэта той прыгожы лес, які некалі ў летнюю пару нядзелямі і сьвятамі аж разьлягаўся ад гуканьня, сьпяваньня і граньня. А цяпер толькі з сумам паглядае на вёску, а вёска на яго. Бо, як людзі кажуць, цяперашні лясьнік павесіў замок на „Бакеўшчыну", і ніхто—„ні нагой". Перакапаў нат' дзьве дарогі, якія вядуць на нашы сенажаці і пасьвішчы ў „Жадунь", па якіх езьділі і хадзілі нашы дзяды-прадзяды, зьбіралі сход, радзіліся, што рабіць; выбралі двох чалавек, якія-б клапаціліся-б аб дарозе. Дый, запраўды-ж, ня лётаць-жа нам у Жадунь на аэраплянах, якіх у нас няма, дый нідзе яшчэ ня чутно было, каб кароў на пашу вазілі на аэраплянах!

Спэктакль. Было гэтакае дзіва ў нашай вёсцы, можа хто й не паверыць, але было. На другі дзень Вялікадня гралі: „У іншым шчасьці няшчасьце схавана", „Модны Шляхцюк" і жарт „Стараста", а на Сёмуху п'есу „Птушка шчасьця" і дэклямацыя! І хто граў: не паны, а нашая вясковая моладзь. Трэба сказаць, што п'есы былі сыграны добра; усе, хто быў на спэктаклях, былі вельмі здаволены. Публікі было поўны будынак (у гумне рабілася гэта, браткі мае), ня гледзячы на дажджавую пагоду на Вялікдзень і на ўсякія другія перашкоды! А без перашкод не абышлося. Напрыклад, сынкі нашага Ятранскага „айца духоўнага" К. Савіча (які бярэ за вянец 70 зл.), пускалі плёткі, што, хто пойдзе на спэктакль, будзе арыштаваны, і другое падобнае плялі. Знайшліся і ў сваёй вёсцы нейкіх пара хлопцаў, як Гальяш Сепега і Алёшка Юрчык, якія стараліся ўсяляк ачарніць ладзіўшых спэктаклі і ўгаварвалі другіх ня йсьці на спэктакль дзеля чаго ўстрайвалі вечарынкі; але гэтым можна даравать, бо гэта людзі не сьвядомыя, якія яшчэ сьпяць.

Вось, з большага ўсё тое, што рабілася ў нас у мінулым годзе.

**В. Каляда.**

# З Радавае Беларусі.

## Бюджэт БССР.

Характэрнай адзнакай бюджэту БСРР на 1925—1926 год значны рост у параўнаньні з папярэднім годам. У 1924—1925 годзе дзяржаўны бюджэт БСРР складаў 23.931.000 руб., мясцовы раўняўся 19.837.000 руб. Дзяржаўны бюджэт на 1925—1926 год раўняецца ўжо 43 мільёнам, а мясцовы — 24 міл. Такім чынам, сума дзяржаўных і мясцовых бюджэтаў узрасла з 43 міл. руб. у мінулым годзе да 67 міл. руб. у сучасным, г. значыць павялічылася на 55 проц. Сюды ўваходзяць ужо надзвычайныя і іншыя фонды.

На народную асьвету было вылучана ў мінулым годзе 8.200.000 руб. (у круглых лічбах), а ў 1925—1926 г.—14.344.000 руб., з павялічэньнем, значыцца на 74,7 проц. На сельскую гаспадарку ў мінулым годзе было вылучана 3.200.000 руб., у гэтым годзе 6.200.000 руб., з павялічэньнем на 92 проц. На ахову народнага здароўя ў мінулым годзе было вылучана — 2.690.000 руб., у гэтым годзе 4.628.000 руб.—павялічэньне на 72,2 проц.

Калі мо' паглядзімо, колькі на душу жыхарства па бюджэту даводзілася ў мінулым годзе і ў цяперашнім па гэтых трох аснаўных выдатках, дык малюнак будзе яшчэ больш выразным. У мінулым годзе на адну душу жыхарства выдаткавалася: па народнай асьвеце—1 руб. 95 кап., у гэтым годзе—3 руб. 42 кап., па ахове народнага здароўя ў мінулым годзе 64 кап., а ў гэтым—1 руб. 10 к., па сельскай гаспадарцы ў мінулым годзе 77 кап., а ў гэтым—1 руб. 48 кап.

## Мастацкія весткі.

Дзеля разгляду ў камісіі беларускае музыкі музычнае падсэкцыі Інстытуту Беларускае Культуры прысланы з Магілёву новыя беларускія творы маладога кампазытара В. В. Вішнеўскага: 1) „Вясна", Словы Я. Коласа. Для поўнага хору. 2) „Нёман", Словы Ц. Гартнага. Для хору з аккамп. раяля. 3) „Ручэй". Словы Я. Коласа. Дуэт сапрано і барытона з аккамп. хору. 4) „Вечарам". Словы Чарота. Для меншага хору.

Камісіяй беларускае музыкі музычнае падсэкцыі ІБК разглядаюцца харавыя творы Яна Тарасевіча: 1) шэсьць дзіцячых песень на 3 галасы. Ор. 51. 2) „Плакала лета". Словы М. Багдановіча. Для голаса з аккамп. раяля. Ор. 52. 3) „Даўно ўжо целам я хварэю". Словы М. Багдановіча. Для голаса з аккамп. раяля. Ор. 53.

Выкладчык па клясе раялю Магілёўскае музычнае школы А. Ф. Боркус піша „Беларускую рапсодыю" для раялю на тэмы беларускіх народных песень.

Дзеля працы ў Менскім музычным тэхнікуме запрошаны з Масквы вядомы хоразнаўца Варонцаў.



Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінеўскі.**

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.